ББК 86.37
М
УДК 293

**МАРОЗАВА Сьвятлана.**

Дзейнасьць Уніяцкай Царквы па кансалідацыі беларускага народу.— Берасьце-Горадня: Рэдакцыя газеты «Царква», 2001.— 24 с.

У навуковай працы вядомай дасьледчыцы гісторыі Уніі С.Марозавай разглядаецца дзейнасьць Уніяцкай Царквы па кансалідацыі беларускага народу. Гэтая праца — адна з нешматлікіх сёньня ў Беларусі спробаў даць усебаковую і аб'ектыўную ацэнку дзейнасьці Уніяцкай Царквы. Аналізуючы складаныя ўмовы, у якіх давялося існаваць Уніяцкай Царкве (да якой у XVIII ст. належала да 3/4 насельніцтва Беларусі), аўтар адзначае асноўныя здабыткі і выдаткі, якія прынесла Унія.

Гэтае выданьне разьлічана на ўсіх, хто хоча даведацца пра сапраўднае месца і ролю Уніяцкай Царквы ў працэсе фармаваньня беларускай нацыі.

© С.Марозава, 2001
© Афармленьне, вёрстка.
Рэдакцыя газеты «Царква», 2001

# ДЗЕЙНАСЬЦЬ Уніяцкай Царквы па кансалідацыі беларускага народу

Гісторыя — гэта кніга, напісаная пераможцамі. Тыя пераможцы, якія зьнішчалі наш народ, цывілізавана ці па-варварску, духоўна або фізічна, нярэдка прыпісвалі сабе ролю яго выратавальніка, абаронцы, дабрадзея (цар Аляксей Міхайлавіч, Кацярына ІІ, Сталін, Гітлер, сьпіс можна працягваць). Афіцыйная версія гісторыі Ўніяцкай Царквы напісана тымі і на заказ тых, хто перамог яе ў 1839 годзе. Зразумела, на старонках гэткай «кнігі» не знайшлося месца добрай памяці пра берасьцейскую ўгоду 1596 году. Стацкі саветнік Мікалай Бантыш-Каменскі ў канцы XVIII ст., родапачынальнік беларускага нацыянальнага нігілізму прафесар Міхаіл Каяловіч у другой палове XIX ст. і савецкія эпігоны «западно-руссизма», якія вызвалялі народ ад рэлігіі наогул, падавалі гэтую старонку беларускай мінуўшчыны як 200-гадовую гісторыю гвалту і зьдзекаў з беларусаў ды як гісторыю іхняга духоўнага выміраньня пад уніяцкім ярмом. Іншай трактоўкі ня варта было і чакаць як ад прадстаўнікоў гістарыяграфіі Праваслаўнай Царквы, чые пазіцыі ў XVII-XVIII стст.

моцна пацясьніла Унія, што скансалідавала пад сваім крылом да 3/4 беларускага народу, так і ад прыдворных гісторыкаў дзяржавы, якія на працягу стагоддзяў перасьледавалі рэлігійную еднасьць, аж пакуль не паставілі на ёй кропку. Сёньня відавочная тэндэнцыйнасьць, зададзенасьць і аднабаковасьць той рэдакцыі гісторыі Уніі, якая падавала амаль чвэрцьтысячагадовую дзейнасьць Царквы па этнаканфесійнай кансалідацыі нашых продкаў выключна разбуральнаю ў сферы культуры і асімілятарскаю ў этнічным плане, паказвала створаныя ёю каштоўнасьці чужымі і варожымі беларускаму народу, ігнаравала намаганьні яе лідараў дасягнуць рэлігійнай самастойнасьці Беларусі на груньце Уніі. Але беларуская гістарыяграфія, якая сама так і ня стала крыніцай кансалідацыі нацыі, як польская, расейская ды іншыя гістарыяграфіі для сваіх народаў, прышчапіла гэты адыёзны вобраз Уніі ў гістарычную сьвядомасьць грамадзтва.

Наш погляд на праблему грунтуецца на наступных метадалагічных падыходах: разгляд Беларусі не як аб’екту, а як суб’екту гісторыі — гэта значыць як творцы ўласнага лёсу; абумоўленасьць сьпецыфікі гістарычнага шляху, пройдзенага нашым народам, геапалітычным фактарам; на палажэньнях аб тым, што рэлігіі не застаюцца нязьменнымі, а трансфармуюцца ў ходзе гісторыі, адаптуюцца да новых этнічных, дзяржаўных, грамадзкіх умоваў; аб спалучэньні традыцыяў і навацыяў як асновы прагрэсу культуры; на ўспрыманьні Берасьцейскай Уніі як працэсу пошуку нашымі продкамі сваёй веры, якая б найлепей адпавядала этнакультурным запытам беларусаў.

Рэлігійнае пагадненьне 1596 году было выклікана да жыцьця як зьбегам унутраных абставінаў, так і цэлым комплексам еўрапейскіх рэлігійна-палітычных дачыненьняў канца XVI ст. Другая палова гэтага стагоддзя зьяўляецца часам бурных

царкоўных «нестроений» і часам стварэньня новай духоўнай і этнакультурнай сітуацыі ва Ўсходняй Еўропе і ў Беларусі. У комплексе перадумоваў і прычынаў Берасьцейскай Уніі выдзяляюцца наступныя:

1. Заняпад Праваслаўнай Царквы Вялікага княства Літоўскага — з аднаго боку, наступ ваяўнічага посттрыдэнцкага каталіцызму, які ішоў у Беларусь з Польшчы ці праз Польшчу і ў польскай абгортцы — з другога, і заяўка Масквы, асабліва пасьля стварэньня ў 1589 г. уласнага патрыярхату, пра сваю рэлігійна-культурную і месіянскую выключнасьць (тэорыя «Масква — трэці Рым») — з трэцяга боку, прымушалі мясцовых лідараў хрысьціянства шукаць рэлігійную альтэрнатыву праваслаўю і рыма-каталіцтву. Пастаянная канфрантацыя ўсходняга і заходняга хрысьціянства на тэрыторыі Беларусі, расьцягваньне праваслаўнага насельніцтва польскім Касьцёлам, пратэстанцкімі грамадамі і ератычнымі сектамі патрабавалі пошуку шляхоў выхаду са складанай міжканфесійнай сітуацыі ды рэлігійнай кансалідацыі народу.

2-3. Завяршалася фармаваньне беларускай і ўкраінскай народнасьцяў, якім трэба было вызначыцца і ў рэлігійным плане. Да сярэдзіны XVI ст. праваслаўе зьяўлялася адным з этнакансалідуючых фактараў. Але ў новай сітуацыі яно праявіла нягнуткасьць і няздольнасьць перабудавацца з улікам інтарэсаў гэтых народнасьцяў і тармазіла іх этнічную дыферэнцыяцыю з раней «адзінай Русі» і індывідуалізацыю ва ўсходнеславянскім сьвеце, у той час як расейская Праваслаўная Царква ў 1589 г. стварае новы сусьветны цэнтр хрысьціянства і сама набывае нацыянальны характар. На хвалі Адраджэньня і Рэфармацыі ў Еўропе ўзьнікаюць іншыя нацыянальныя Цэрквы: гусіцкая — у Чэхіі, лютаранская — у Германіі, кальвіністцкая — у Швейцарыі. Зараджэньне ў выглядзе ўніяцтва беларускай нацыянальнай Царквы цалкам

упісваецца ў культурна-гістарычны кантэкст таго часу. Ва ўмовах жывучасьці антылюблінскіх настрояў у Вялікім княстве Літоўскім у апошняй трэці XVI ст. некаторыя яго дзяржаўныя дзеячы (у тым ліку канцлер Леў Сапега) намерваліся з дапамогай Уніяцкай Царквы захаваць рэлігійную асобнасьць сваёй дзяржавы ў саюзе з рыма-каталіцкай Польшчай.

4. Заключэньню Берасьцейскай Уніі папярэднічала сьпецыфічная моўная сітуацыя: пранікненьне польскай мовы ў грамадзкае жыцьцё, культуру Беларусі, патрэба ў лаціне як сродку адаптацыі да заходнееўрапейскай навукі і культуры, штучная падтрымка Праваслаўнай Царквой царкоўнаславяншчыны і, галоўнае, абуджаная Рэфармацыяй цікавасьць да нацыянальнай мовы. Усьлед за Францішкам Скарынам, які надаў беларускую афарбоўку царкоўнаславянскай Бібліі; Сымонам Будным і Васілём Цяпінскім, якія выдавалі рэлігійныя кнігі ўжо на роднай мове, узьнікла патрэба шырокага ўвядзеньня нацыянальнай мовы ў сакральную сферу. У сітуацыі, калі Рыма-Каталіцкая Царква ў Беларусі працавала на польскай мове і латыні, а праваслаўе не дапускала ў набажэнствы народнай мовы, на гэты запыт маладога этнасу адказала Ўніяцкага Царква.

5. У пасьлялюблінскі перыяд нацыянальна-культурны патэнцыял беларускай народнасьці быў значна аслаблены, бо на працягу аднаго-двух пакаленьняў яна страціла значную частку сваёй арыстакратыі, інтэлектуальнай і палітычнай эліты, якая, не знаходзячы задавальненьня сваіх інтэлектуальна-духоўных патрэбаў у праваслаўі, перайшла ў каталіцтва, але ў значнай меры не праз Унію, а праз Рэфармацыю. З пачаткам паланізацыі эліты, якая ішла праз Касьцёл, слабеюць кансалідацыйныя працэсы ўнутры этнасу, адбываецца сьпіхваньне беларусаў у шэраг «пазагістарычных народаў». Ужо тады для нашага народу акрэсьлі-

ваецца перспектыва стаць этнасам з няпоўнай сацыяльнай структурай — як народу мужыцкаму, сялянскаму. «Хлапее рускі народ»,— заўважыў на гэты конт М.Сматрыцкі[1]. Трэба было ратаваць паству ад пераходу на лацінскі абрад і аб'ектыўна — ад дэнацыяналізацыі. Дапушчэньнем элементаў каталіцтва, схільнага да валявога навязваньня сваёй дактрыны, і некаторым адыходам ад праваслаўя ствралася альтэрнатыва «польскай» і «рускай» веры. Ва ўніяцтве трэба бачыць клопат пра выратаваньне нацыянальных формаў культуры перад пагрозаю дэнацыяналізацыі, шлях да духоўнага адраджэньня беларускага грамадзтва і ўмацаваньня ягонай культурна-рэлігійнай і этнічнай асобнасьці ў праваслаўна-каталіцкім атачэньні.

Берасьцейская Унія была прынята зусім не пасьпешна і бяздумна, а пасьля працяглых роздумаў і шматлікіх сустрэчаў (падрыхтоўка доўжылася 5 гадоў) і была заключана толькі тады, калі яе арганізатары дамагліся ад Ватыкану і польскага караля гарантыяў выкананьня артыкулаў-умоваў аб'яднаньня (іх усяго 33).

Складальнікі берасьцейскіх артыкулаў — праграмнага дакументу ўніятаў — пасьлядоўна праводзілі ў жыцьцё ўласную царкоўную і нацыянальную лінію. Забясьпечвалася багаслоўская, літургічная і арганізацыйная самабытнасьць зьяднанай Царквы. З дзіўнаю годнасьцю і сьмеласьцю спалучыліся ў іх элементы старога і новага, мінулага і будучага, айчыннага і замежнага. Артыкулы былі закліканы нейтралізаваць небясьпеку лацінізацыі і паланізацыі. Сярод іх — права на духоўныя пасады «толькі людзям народу рускага..., каб былі нашай рэлігіі»; забарона пераводу ўніятаў у рымскі абрад і пераварочваньня цэркваў на касьцёлы. Гісторыя Уніі ня ведае выпадкаў прызначэньня на вышэйшыя духоўныя пасады ўраджэнцаў Польшчы і сьвятароў рыма-каталіцкага веравызнаньня.

[1] Grabowski T. Z dziejów literatury unicko-prawosławnej w Polsce. 1630-1700. Poznań, 1922. S. 13.

Уся ўніяцкая ярархія была мясцовага, беларуска-ўкраінскага паходжаньня і праводзіла інтарэсы сваіх народаў. Ужо сам факт абраньня ярархіі з уласнага народу зьяўляецца паказчыкам нацыянальнага характару царкоўнай арганізацыі. Дадамо, што апошняя ня стала складовай часткай польскага Касьцёлу, а наўпрост была падпарадкавана Рыму.

Названыя, а таксама шэраг іншых артыкулаў Берасьцейскай згоды 1596 году (пра непарушнасьць сваіх абрадаў і цырымоніяў, звычаяў і сьвятаў, захаваньне царкоўнаславянскай мовы ў набажэнстве) насілі ярка акрэсьлены этнаахоўны характар. Пры ўвядзеньні ўніяцтва не было радыкальнай ломкі народных традыцыяў і звычаяў, якая б груба і балюча закранула рэлігійную сьвядомасьць вернікаў. У адваротным выпадку яго творцы засталіся б у поўнай ізаляцыі.

У экстрэмальных умовах існаваньня беларускага этнасу, калі цяжар адказнасьці за яго лёс узяло на сябе духавенства, у народзе абуджаюцца вялікія ўнутраныя сілы. Прамоўцы з царкоўных катэдраў і вулічных падмосткаў, палемісты са старонак сваіх кнігаў вяшчалі народу *pro і contra* Уніі. Духавенства з розных прыступак ерархічнай лесьвіцы, магнаты і шляхта, брацтвы, гараджане сьпяшаліся засьведчыць сваё стаўленьне да Берасьцейскага пагадненьня. Ніхто з мысьляроў таго часу ня мог застацца абыякавы да гэтае падзеі, а для некаторых яна стала сэнсам жыцьця (з рознай накіраванасьцю: умацаваньне або зьнішчэньне ўніяцтва), што выклікала цьвёрдасьць, ахвярнасьць, гатоўнасьць пацярпець за веру і перакананьні.

1596 год стварыў неардынарную сітуацыю ў Беларусі, даў магутны штуршок разьвіцьцю царкоўнай самасьвядомасьці насельніцтва, прывёў да ўздыму актыўнасьці этнасу і апынуўся ў цэнтры грамадзка-палітычнага жыцьця наступнага паўстагоддзя. Увядзеньне і

распаўсюджваньне ўніяцтва выклікала мабілізацыю праваслаўя, што мела сваім вынікам ягоную інтэлектуальна-культурную перабудову ў другой і апошняй трэці XVII ст. Валынскі чашнік Лаўрэнці Дрэвінскі на сойме 1620 г. гаварыў на гэты конт наступнае: «Калі б некаторыя з нашага духавенства не адступілі ад свайго законнага пастыра і калі б тыя, што адышлі ад нас, не паўсталі на нас,— то такія навукі, такія вучэльні і такая кольксасьць дастойных і вучоных людзей ніколі не зьявілася б у рускім народзе»[2]. Вядомы ўкраінскі пісьменьнік Іван Франко назваў Берасьцейскую Унію «ферментам духоўнага жыцьця народаў»[3].

Падагрэтыя Уніяй нацыянальна-рэлігійныя пачуцьці дасягнулі высокай ступені запалу ў канцы XVI - першай палове XVII стст. Барацьба вакол царкоўнага зьяднаньня сьведчыла пра рост этнічнай і культурнай самасьвядомасьці нашых продкаў, абуджэньне ў іх гістарычнай памяці, незалежна ад таго, сімпатызавалі яны Уніі або ненавідзелі яе. Беларусь перажывала тады перыяд паскоранага нацыянальнага разьвіцьця. У працэс фармаваньня этнічнай самасьвядомасьці ўцягваюцца ўсё больш шырокія слаі народа. Калі ў эпоху Адраджэньня і Рэфармацыі гэта праяўлялася найперш на ўзроўні перадавых дзеячаў культуры (Ф.Скарына, С.Будны, В.Цяпінскі), то цяпер — масава (шляхта, духавенства, гараджане). На апошнім этапе існаваньня Уніяцкай Царквы даволі высокі ўзровень рэлігійнай самасьвядомасьці, з якой цесна зьвязана і этнічная, выяўляе беларускае сялянства — уніяцкае ў сваёй асноўнай масе.

Духоўная эліта, як вядома, нароўні з элітай палітычнай і культурнай, заўсёды прэтэндуе на ролю правадыра этнасу. Уніяцкая духоўная эліта хацела перахапіць гэтую ролю ў Праваслаўнай Царквы, якая да таго часу стала сімвалам «рускай народнасьці».

---

[2] Европейське відродження та українська література XIV-XVIII ст. Київ, 1993. С. 323.
[3] Franko I. Z dziejów synodu brzeskiego 1596 r. // Kwartalnik historyczny. Rocznik IX. Lwow, 1895. S. 1.

Ідэолагі кожнага з лагераў былі шчыра пераканаҥы, што менавіта яны зьяўляюцца выразьнікамі інтарэсаў свайго народу ды імкнуліся ўпэўніць у гэтым як сваіх прыхільнікаў, так і праціўнікаў. Кожны выступаў ад імя ўсяго этнасу і менавіта на грунье свайго веравызнаньня бачыў шлях да кансалідацыі рэлігійна разьяднанага народу. У сувязі з гэтым варта згадаць мудрую думку ўкраінскага праваслаўнага мітрапаліта Іларыёна (XX ст.), што ў народзе ня можа быць дзьвюх процілеглых нацыянальных ідэалогіяў (у тым ліку ў рэлігійнай сферы), бо тады яны абясьсіляць і разваляць яго[4]. Кожны з бакоў — прыхільнікі Уніі і яе супраціўнікі — укладваў тады сваё разуменьне ў паняцьце этнаканфесійнага патрыятызму. У першых ён выступаў як жаданьне духоўнага адраджэньня свайго народу праз «паправу» (рэформу) Царквы шляхам набліжэньня яе да культурна прывабнага каталіцкага Захаду. Патрыятызм другіх выяўляўся ў недапушчэньні якіх бы то ні было зьменаў у Царкве, у кансервацыі сярэднявечных традыцыяў, у супрацьдзеяньні ўзмацненьню кантактаў з заходнееўрапейскімі краінамі, у жаданьні захаваць вернасьць Канстанцінопальскаму патрыярхату.

Далёка ня ўсё беларуска-ўкраінскае грамадзтва пагадзілася тады з такім гістарычным выбарам епіскапату на карысьць Уніі. Намаганьні духоўнай эліты, за якой спачатку пайшла толькі жменька народу, спатыкаюцца аб менталітэт уласнае паствы і залежнага ад мясцовай шляхты духавенства, выхаваных на зьвернутым у мінулае традыцыяналісцкім прынцыпе «чым старажытней, тым сапраўдней». Прывіваючы грамадзтву ідэю пра выключнасьць праваслаўя, яго наканаванасьць для беларусаў, артадоксы навязвалі думку, што ўніяцкае «новомыслие» зьяўляецца скажэньнем веры, нясе зьнішчэньне праваслаўя і замену

[4] Митрополит Іларіон. Українська церква за час руїні (1657-1687). Вінніпег, 1956. С. 9.

яго рыма-каталіцтвам. Яны анафемствавалі і праклінали ініцыятараў Уніі, паралізоўвалі ўсе іхнія дзеяньні, арганізавалі акцыю імпічменту царкоўнага кіраўніцтва. Разгорнутая лідарамі праваслаўнай апазіцыі антыўніяцкая істэрыя дала свае вынікі — да пачатку XVII ст. царкоўная згода была дастаткова дыскрэдытавана ў вачах грамадзтва.

Біскупы-ўніяты не змаглі прадбачыць такога моцнага шырокага супраціву, які арганізавалі іхнія апаненты. Спачатку ўсё здавалася прасьцей: шараговае духавенства пойдзе за сваім кіраўніцтвам і павядзе за сабою масы. Але добрыя намеры падтрыманых дзяржаваю ініцыятараў царкоўнага зьяднаньня сутыкнуліся з неразуменьнем і байкотам, на якія амбітныя кансерватыўныя дзеячы падбухторвалі праваслаўную большасьць, якая ў сваім патрыятычным запале не прызнавала іхніх рэформаў. Замест чаканай кансалідацыі 1596 год кінуў у канфесійна ўжо разьяднаны беларускі народ новае зерне рэлігійнага супрацьстаяньня, яшчэ больш абвастрыў канфесійную напружанасьць. Разьлік на безбалеснае рэфармаваньне і трансфармацыю заняпалага праваслаўя стаўся яго расколам. Дзьве веры грэцкага абраду сталі антаганістамі ў Беларусі і распачалі барацьбу за «месца пад сонцам» і за паству.

У сваёй антыпатыі да ўніяцтва, якая пераходзіла ў сапраўдную варожасьць, беларуская праваслаўная апазіцыя знайшла разуменьне і падтрымку Масквы, дзе з утварэньнем патрыяршаства ўзмацніліся антылацінскія настроі, а з заключэньнем Берасьцейскай Уніі яшчэ больш узмацніўся недавер да Захаду. Апантаныя ўсьведамленьнем сваёй праваслаўнай рэлігійнай выключнасьці, духоўныя і сьвецкія ўрадавыя колы Расеі, пачынаючы з 1620-ых гадоў, на працягу больш як двух стагоддзяў праводзілі варожую палітыку ў дачыненьні Уніяцкай Царквы, распальвалі антыўніяцкія настроі ў Беларусі. Антырасейскі менталітэт уніяцкага народу і духавенства

ды іхняя боязьнь гэтай краіны, такім чынам, мелі пад сабой падставы. Уніяты былі пазбаўлены спаконвечнай цягі аддацца пад уладу расейскага самадзержца, якую айчынная гістарыяграфія прыпісала ўсяму беларускаму народу. Уніяцкая Царква выхоўвала сваю паству ў духу вернасьці сваёй дзяржаве — Вялікаму княству Літоўскаму, у той час як праваслаўе і рыма-каталіцтва арыентавалі народ на замежныя цэнтры — Маскву і Варшаву.

У другой палове XVII ст. фартуна стала паварочвацца да ўніяцтва тварам. Ужо з 1630-ых гадоў адбываецца зьмена ў настроях шляхты. Да таго часу ў асноўнай сваёй масе яна адвярнулася ад праваслаўя, прыняла каталіцтва і пачала больш прыхільна ставіцца да Уніі. Тое, што абарону праваслаўнай веры падхапіла казацтва, яшчэ больш адштурхоўвала ад яе арыстакратыю.

Вайна 1654-1667 гг. істотна разьвеяла ілюзіі пра выратавальную місію расейскага самадзяржаўя, разбурыла імідж цара-вызваліцеля, хоць масквафільскія настроі сярод праваслаўнага насельніцтва Рэчы Паспалітай былі даволі моцныя аж да падзелаў іх дзяржавы. Факт падпарадкаваньня Кіеўскай мітраполіі Маскоўскаму патрыярхату ў 1685 г. зьмяніў адносіны беларуска-ўкраінскага грамадзтва, ураду Рэчы Паспалітай у бок спрыяньня Уніі, у якой убачылі фундамент незалежнасьці ад Расеі і шлях нейтралізацыі па-прамаскоўску зарыентаванага праваслаўя. Гэта, разам з ростам унійных настрояў у грамадзтве, унутраным расколам у Праваслаўнай Царкве, адыходам ад яе шляхты, разам са зьмяншэньнем пасьля 1667 г. палітычнай ролі казацтва — галоўнага ўнутранага ворага Берасьцейскай Уніі,— спрыяла павелічэньню ўплыву ўніяцтва на тэрыторыі, дзе пераважала праваслаўнае насельніцтва. Яшчэ нядаўна асуджаная на поўнае вынішчэньне Уніяцкая Царква ў апошняй трэці XVII ст. вырасла колькасна, узмацнілася ўнутрана і на мяжы XVII-XVIII стст., нягледзячы на моцнае

супрацьдзеяньне звонку, стала самай масавай канфесіяй у Беларусі. Трыумфальны поступ уніяцтва, часова перарваны яшчэ адной спробай расейскага ўраду поўнасьцю, у тым ліку і фізічна, яго зьнішчыць у час Паўночнай вайны, працягваўся амаль да канца XVIII ст. і суправаджаўся моцным зьмяншэньнем праваслаўных шэрагаў. У беларускіх паветах ВКЛ, паводле дадзеных Я.Н.Мараша, у 1790 г. было 143 праваслаўныя, 283 каталіцкія і 1199 уніяцкіх прыходаў[5].

Пашырэньне ўніяцтва за кошт праваслаўных братоў у Хрысьце не абыходзілася бяз іх дыскрымінацыі. Аднак гэты працэс ішоў ня столькі пад прымусам, як тое намагалася паказаць праваслаўная апазіцыя, але ў значнай ступені дабраахвотна. Гісторыкі ж канца XVIII-XX стст. намалявалі не адпаведную рэчаіснасьці карціну маштабных рэпрэсіяў у сувязі з увядзеньнем Берасьцейскай Уніі. Зразумела, вера не змагла б пашырацца і пратрымацца 243 гады, калі б грунтавалася толькі на прымусе.

Поўнае атаясамліваньне ўніяцтва з рыма-каталіцтвам, якое вынікае з непрызнаньня за нашымі продкамі гістарычнага і маральнага права на царкоўна-рэлігійнае самавызначэньне і індывідуальнасьць у межах хрысьціянскага сьвету, а таксама з ігнараваньня ўмоваў царкоўнай згоды 1596 г., не дазволіла царскай і камуністычнай гістарыяграфіям убачыць розную ролю гэтых канфесіяў у этнагенезе беларусаў у канцы XVI-XVIII стст. і выйсьці за межы разуменьня ўніяцтва толькі як паслухмянай зброі ў руках езуітаў і польскага Касьцёлу дзеля акаталічваньня і паланізацыі.

Так, 1596 год зьняў той канфесійны бар'ер, які аддзяляў праваслаўных ВКЛ ад каталікаў. Але гэта быў толькі адзін бок справы. Стаўшы на берасьцейскі шлях, нашыя продкі адышлі ад праваслаўя,

[5] Мараш Я.Н. Очерки истории экспансии католической церкви в Белоруссии XVIII века. Мн., 1974. С. 226.

але і зьліваецца з рыма-каталіцтвам не жадалі. Ім здавалася, што царкоўная згода — гэта тая форма, якая паспрыяе незалежнай пазіцыі паміж Польшчай і Расеяй. Асвойваць новы статус у хрысьціянскай супольнасьці, вытрымліваючы пры гэтым уласную лінію і адстойваючы свае інтарэсы, беларускай Царкве было нялёгка. Гісторыя ўніяцкай царкоўнай арганізацыі, пры ўсёй яе інтэграванасьці з Ватыканам, была прасякнута імкненьнем захаваць і ўмацаваць беларускую плынь і стараславянскі дух, а таксама барацьбой за сваю самабытнасьць і адасобленасьць ад Рыма-Каталіцкай Царквы, найперш у яе польскай форме.

Ужо Іпаці Пацей, які паходзіў з берасьцейскай шляхты, паводле прызнаньня М.Каяловіча, паказваў, «што стаіць са сваёй уніяй паміж Русьсю і Польшчай, праваслаўем і лацінствам»[6]. Адзін з біёграфаў мітрапаліта сьцьвярджаў, што той, «здавалася, і ўмеў, і мог зрабіць уніяцкую царкву самастойнай, адметнай ад праваслаўя і лацінства»[7]. Дзейнасьць ягонага наступніка мітрапаліта Язэпа Руцкага, ураджэнца Наваградчыны, была накіравана на духоўна-культурны ўздым сваёй веры, супрацьдзеяньне ўплывам Рыма-Каталіцкай Царквы і дэнацыяналізатарскім настроям, якія былі асабліва моцныя сярод адукаваных колаў грамадзтва.

Мітрапаліт Руцкі распачаў барацьбу за эліту, шляхту — кожная Царква зацікаўлена мець багатую, уплывовую і адукаваную паству. Ягонае імкненьне ўтрымаць пры Уніі рэшткі найбольш заможных і ўплывовых родаў аб'ектыўна зьяўлялася барацьбой супраць дэнацыяналізацыі беларускага народу. Мітрапаліт дамагаўся ад рымскай курыі забараніць пераход і без таго нешматлікай беларускай шляхты на лацінскі абрад, бо праз гэта Царква несла вялікія людзкія і маральныя страты. Паводле ягоных падлікаў, штогод на лацінскі абрад пераходзяць мінімум 200 «рускіх шляхцічаў»,

[6] Коялович М.О. Литовская церковная уния. СПб., 1861. Т. 2. С. 87.
[7] Трипольский Н. Униатский митрополит Ипатий Потей и его проповедническая деятельность. К., 1878. С. 44.

найбольш праз езуіцкія школы. «Хто са шляхты праз 10 гадоў застанецца ў рускім народзе?» — пытаецца ён у ватыканскай Кангрэгацыі прапаганды веры ў лісьце ад 28 чэрвеня 1628 г. Перацягваньне «русінаў» на рымскі абрад наносіць вялікую шкоду «рускай» Царкве, ужо хоць бы таму, што адштурхоўвае патэнцыйную паству з ліку праваслаўных, якія прадузята ставяцца да Уніі, бо бачаць, што польскі Касьцёл хоча праз яе зусім зьнішчыць «рускі» абрад[8].

Язэп Руцкі патрабаваў, каб езуіты спынілі перацягваньне беларускай моладзі ў свой абрад, пагражаючы ў адваротным выпадку забараніць бацькам пасылаць дзяцей у іхнія школы, імкнуўся да стварэньня сваёй сістэмы адукацыі. Выдадзены 7 ліпеня 1624 г. у адказ на настойлівыя хадайніцтвы мітрапаліта Руцкага дэкрэт папы Рымскага Урбана VIII спыніў масавае спакушэньне ўніятаў у «вышэйшую» веру і выратаваў значную частку беларускай шляхты для Ўніяцкай Царквы і свайго народу. Паводле дэкрэту ватыканскай Кангрэгацыі прапаганды веры 1627 г., базыльянскіх манахаў дазвалялася прымаць у рыма-каталіцтва толькі з асобага дазволу Рыму ў кожным канкрэтным выпадку, а «рускаму ўніяцкаму народу» наогул быў забаронены пераход у лацінства[9]. Такая этнаахоўная палітыка Я.Руцкага мела плён. Аднак ватыканскі нунцый Ланчэлоці ў 1622 г. адзначыў, што лепш бы не было Уніі, бо без яе лягчэй было пераварочваць у каталіцкую веру праваслаўных вяльможаў [10].

На жаль, згаданыя дэкрэты ня сталі нормай царкоўнага жыцьця Рэчы Паспалітай, і гэта мела негатыўныя наступствы для Ўніяцкай Царквы і беларускага этнасу. Па-першае, яна (як, дарэчы, і Праваслаўная Царква) страціла амаль усю арыстакратыю, якая перай-

[8] Хома І. Київська церква в Берестейськім періоді. Рим, 1979. С. 124-125.
[9] Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу. Ф. 823, воп. 1, спр. 539, арк. 1-2.
[10] Белоруссия в эпоху феодализма: Сборник документов и материалов. Мн., 1959. Т. 1. С. 388.

шла на лацінскі абрад ды апалячылася. Па-другое, гэта выклікала папрок у бок Уніяцкай Царквы, што яна спрыяе лацінізацыі, і, да таго ж, гэта не садзейнічала росту яе прэстыжу ў грамадзтве. Украінскі царкоўны гісторык Іван Хома небеспадстаўна лічыць гэты папрок несправядлівым — лацінізацыя сыходзіла ня з сутнасьці Уніяцкай Царквы, а ад зьнешніх фактараў: караля, езуітаў, польскай каталіцкай ярархіі, уплывовага нунцыя, ад нявер'я Апостальскай сталіцы ў сілы Уніі[11].

Маючы значны ўплыў на ўнутраную і зьнешнюю палітыку ВКЛ, Я.Руцкі імкнуўся да «ўніверсальнай» уніі — аб'яднаньня праваслаўных і ўніятаў у рамках адной царкоўнай арганізацыі — і дамагаўся адміністрацыйнай незалежнасьці апошняй ад Масквы, Канстанцінопаля, Рыму і Польшчы шляхам стварэньня ўласнага патрыярхату. Гэтай ідэяй ён змог зацікавіць нават некаторых сваіх праваслаўных апанентаў, у прыватнасьці, Мялеція Сматрыцкага, які лічыў ВКЛ і Кіеўскую мітраполію годнымі для падвышэньня царкоўнага статусу. Заснаваньне новага цэнтру хрысьціянства ўзвысіла б прэстыж ВКЛ сярод краінаў Еўропы. Але гэты план сутыкнуўся з варожым стаўленьнем з боку рымскай курыі, якая не жадала ўласнымі рукамі ствараць царкоўную арганізацыю з шырокімі суверэннымі правамі, што з часам магла б выйсьці з-пад яе ўплыву. Праект патрыярхату для ВКЛ ня выклікаў сімпатыяў і ў польскага караля, які не жадаў умацаваньня ВКЛ, ён супярэчыў інтарэсам Масквы і Канстанцінопаля і, урэшце, ня быў падтрыманы ўплывовымі праваслаўнымі коламі сваёй дзяржавы. Аддаленыя гістарычныя пэрспэктывы і значэньне праекту мітрапаліта Я.Руцкага для кансалідацыі беларускага і ўкраінскага народаў усьвядомілі толькі лічаныя асобы таго часу[12]. Недаравальна

[11] Хома І. Київська церква в Берестейськім періоді. Рим, 1979. С. 126.

[12] Саверчанка І. Праект сваёй патрыярхіі // Голас Радзімы. 1994. № 9-12; Плохий С.Н. Борьба украинского народа с католической экспансией (XVI-XVII вв.). Днепропетровск, 1987. С. 13; Коршунов А. Афанасий Филиппович: Жизнь и творчество. Мн., 1965. С. 23-24.

ўпусьціўшы ў XVII ст. гістарычны шанец, беларуская Царква візантыйскага абраду ўжо ніколі болей не была здольнай узвысіцца да пастаноўкі такога роду пытаньня.

Пэўна, сімпатыі рымскай курыі і асабліва польскіх уладаў да ўніяцтва з яго прэтэнзіямі на самабытнасьць і аўтаномнасьць ня варта перабольшваць. «Некаторыя дзеячы уніі,— пісалі ў 1929 г. ініцыятары яе адраджэньня,— тыя, што выходзілі з беларускага асяроддзя, мелі тэндэнцыю спыніцца на «беларускай уніі», акапаўшыся, так сказаць, на гэтых нацыянальных пазіцыях трывала і ўстойліва. Але гэта не адпавядала інтарэсам Рыму — езуіты далей гналі ўніятаў, не даючы ім застойвацца на гэтым мосьце, акопвацца на беларускіх пазіцыях»[13]. Палітыку Ватыкану можна ацаніць як дваістую: з аднаго боку, ён імкнуўся праз унію прыцягнуць да сябе народы еўрапейскага Ўсходу, а, з другога, абмяжоўваў яе разрастаньне. Двухсэнсоўным было і стаўленьне ўраду Рэчы Паспалітай. Ужо сам факт прыналежнасьці Ўніяцкай Царквы да каталіцтва вымагаў яе падтрымкі. Але, з другога боку, «руская» Царква з асобнай ерархічнай структурай і адрозным абрадам была перашкодай на шляху асіміляцыі ўсходнеславянскага насельніцтва. Лацінізатарская і паланізатарская дзейнасьць польскага Касьцёлу, даючы пэўныя вынікі, садзейнічала абуджэньню сярод уніяцкіх масаў нацыянальнай і рэлігійнай сьвядомасьці. Ягоная лінія на згладжваньне сьпецыфічных рысаў уніяцтва дасягала мэты толькі часткова ў сувязі з пазіцыяй беларускага духавенства і вернікаў, якія адстойвалі царкоўна-культурную індывідуальнасьць свайго народу. Ад новага вітка дэнацыяналізацыі, пачаткам якога ўмоўна можна лічыць 1696 год, Уніяцкую Царкву выратавала рэфарматарская дзейнасьць мітрапаліта Льва Кішкі (1714-1728 гг.), які ўсьведамляў, што сама-

[13] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў Львове. Ф. 684, воп. 1, спр. 3208, арк. 9 адв.

стойнай, жыцьцяздольнай і даўгавечнай Царква можа быць толькі пры ўмове захаваньня сваёй асобнасьці і пры апоры на старажытныя этнаканфесійныя традыцыі.

Зьнішчальную ацэнку Берасьцейскай Уніі з пункту гледжаньня інтарэсаў польскага Касьцёлу даў польскі аўтар Э.Старчэўскі. Ён лічыць наіўнымі разьлікі польска-ватыканскіх палітыкаў аб'яднаць пад адным дахам дзьве разнавіднасьці каталіцтва — з іх утварыліся два асобныя веравызнаньні. На яго думку, «з Уніі была зроблена нейкая сьпецыфічная русінская рэлігія», якая стала канкурэнткай Касьцёлу, перашкодзіла яму шырыцца далей на Ўсход і зрабіла «русінскі арганізм» непадобным на Польшчу нацыянальна, культурна і сацыяльна. Яна, як клін, убілася паміж Польшчай і Русьсю (Беларусьсю-Ўкраінай), паміж каталіцтвам і ўсходнім веравызнаньнем і тое, што павінна была злучыць, надоўга разьвярэдзіла і разьдзяліла[14]. Гэты яе курс на хрысьціянскі нацыяналізм праігнараваны дарэвалюцыйнай і савецкай гістарыяграфіяй. Адстойваючы сваю веру, уніяцкія дзеячы аберагалі такім чынам і самабытнасьць народу, якой гэтая вера спрыяла.

Узьніклая на хвалі контррэфармацыі Ўніяцкая Царква, аднак, выкарыстала народжаную Рэфармацыяй цікавасьць да нацыянальнай мовы і дала ёй поўнае права грамадзянства ва ўсіх сферах сваёй дзейнасьці (у штодзённым ужытку, казаньнях, палемічнай публіцыстыцы, рэлігійнай літаратуры, справаводзтве), акрамя літургічнай. У аснове яе моўнай палітыкі ляжала ўвядзеньне ў сакральную сферу беларускай («рускай» паводле крыніцаў) мовы пры захаваньні ў якасьці кананічнай царкоўнаславянскай. Увядзеньне ў рэлігійнае жыцьцё народнай мовы, якой раней адводзілася роля непрэстыжнага, другараднага сродку камунікацыі, садзейнічала кансалідацыі беларускага народу, зьяўлялася

[14] Starczewski E. Widma przeszłości. Szkice historyczne. Kraków, 1929. S. 283-284, 329-330.

своеасаблівым індыкатарам фармаваньня апошняга. У канцы XVI - пачатку XVII стст. уніяцкае духавенства задавала тон у беларусізацыі Царквы. Вымушаныя лічыцца з гэтым ва ўмовах канкурэнцыі за паству, дзеячы брацкага руху насьледавалі ўніяцкім калегам і ішлі на парушэньне праваслаўнай традыцыі, якая перасьцерагала ад захапленьня «подлейшей и простейшей» «рускай» мовай у Царкве.

У сітуацыі, калі адшліфаваная пад пёрамі берасьцейскіх палемістаў нацыянальная мова, якая мела дзяржаўны статус, імкліва пачала страчваць апору ў адукаваных колах і здаваць свае пазіцыі ва ўстановах, грамадзкім жыцьці і пісьменстве на карысьць польскай і лацінскай, дзеячы Уніі ўсьвядомілі цяжар адказнасьці за яе стан, таму ўзаконілі ў 1636 г. выкарыстаньне яе ў сваёй Царкве. Віленская базыльянская кангрэгацыя пастанавіла ў 1636 г., «абы отцове и братия закону нашого в церквах не иншым, але руским толко языком проповед слова Божого чинили»[15]. Зразумелая народу мова была той прыцягальнай сілаю, дзякуючы якой Уніяцкая Царква здолела павесьці за сабою значную частку праваслаўнага насельніцтва. Пры ўсёй гісторыка-культурнай супярэчлівасьці ўніяцтва нельга ня ўбачыць, што сярод нізавой часткі яго духавенства і ў патрыятычных базыльянскіх колах ажыцьцяўлялася супрацьдзеяньне польскамоўнаму засільлю. Выкарыстаньне і падтрымка Уніяцкай Царквой нацыянальнай мовы спрыяла яе выжываньню ва ўмовах паланізацыі, станавілася фактарам этнічнай самасьвядомасьці, з аднаго боку, а, з другога, садзейнічала дыферэнцыяцыі ўсходнеславянскіх этнасаў, паглыбленьню моўнага бар'еру паміж беларусамі і расейцамі.

Уніяцкая Царква, трэба аддаць ёй належнае, ні ў XVII ст., ні нават у XVIII ст. ня стала фактарам масавай паланізацыі. У

[15] Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Украіны ў Львове. Ф. 408, воп. 1, спр. 827, арк. 111-112.

лінгвістычных катаклізмах канца XVI - першай трэці XIX ст. яна здолела захаваць сваю моўную сьпецыфіку і фактычна заставалася адзіным рэлігійным інстытутам, у якім у большай ці меншай меры пасьпяхова функцыянавала народная мова і беларуская рэдакцыя царкоўнаславяншчыны, што зьяўляецца паказчыкам далучанасьці Царквы да нацыянальнай культуры. «Увесь грэкаўніяцкі народ размаўляе мовай беларускай або маларасійскай, дзеці ўніяцкага духавенства ў доме сваіх бацькоў і па-за ім амаль выключна чуюць гэтую мову»,— пісаў адзін з галоўных «ліквідатараў» Уніі Іосіф Сямашка[16]. «Уніяцкія прыхаджане, гаворачы адной простай беларускай гаворкай, ...польскіх казаньняў не разумеюць, бо ўсе ўніяты складаюцца з сялянскіх саслоўяў і найбяднейшай шляхты»,— канстатаваў у 1834 г. ягоны калега полацкі праваслаўны япіскап Смарагд[17]. Са скасаваньнем Уніі нацыянальнай мове не засталося месца ў афіцыйным царкоўным жыцьці Беларусі: адну частку беларусаў, апраўславіўшы, прымушалі перайсьці на расейскую мову; другую прыгарнула Рыма-Каталіцкая Царква, якая культывавала на нашых землях пальшчызну.

Такім чынам, уніяцтва прыйшло ў беларускі сьвет, які быў ужо падзелены на сферы ўплыву паміж праваслаўем і рыма-каталіцтвам, з намерам яго абʼяднаць ды прымірыць і моцна пацясьніла пазіцыі традыцыйных «мацнейшых» канфесіяў, хоць у рэшце-рэшт само стала іх ахвярай. Колькасьць пасьлядоўнікаў новай веры спачатку была нязначнай. Але паступова яна ўсё больш заваёўвала сімпатыі народу. У 1630-ыя гады сярод шляхты пачынаецца рост сімпатыяў да яе. Уніяты ў другім-трэцім пакаленьні ўжо лічылі яе роднай верай, якая дасталася ў спадчыну ад бацькоў і дзядоў. Рэформы мітрапалітаў Я.Руцкага і А.Сялявы

[16] Записки Иосифа, митрополита Литовского. Т.1. СПб., 1883. С. 572.
[17] Шавельский Г. Последнее возсоединение с православною церковию униатов Белорусской епархии (1833-1839). СПб., 1910. Приложения. С. 26.

ўмацоўваюць Царкву. У апошняй трэці XVII ст. яна істотна пашырае, а на мяжы XVII-XVIII стст. займае ключавыя пазіцыі, становіцца самай масавай і пачынае адыгрываць ролю традыцыйнага царкоўнага інстытуту на землях Беларусі. Да канца XVIII ст. уніяцтва скансалідавала вакол сябе да 80% беларускіх сялянаў, частку гараджанаў, дробнай і сярэдняй шляхты[18]. Больш моцныя пазіцыі і больш даўнія традыцыі яно мела на захадзе Беларусі, хоць абсалютна дамінавала і на ўсходзе. На далучаных пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітай да Расейскай імперыі землях пражывала 100 тысячаў рыма-каталікаў, 300 тысячаў праваслаўных і 800 тысячаў уніятаў[19]. У 20-30-ыя гады XIX ст., нават пасьля дзьвюх урадавых акцыяў па «ўзьяднаньні», у Беларусі пражывала 1,5 мільёны ўніятаў[20].

Ва ўніяцтве вырасла і было выхавана 12 пакаленьняў беларусаў. За два з паловай стагоддзі народ прызвычаіўся да веры, якая шмат у чым адпавядала ягоным нацыянальна-культурным памкненьням і сацыяльнаму статусу. Скансалідаванасьць народу ўніяцтвам, прывязанасьць да яго найбольш выявілася тады, калі над іх Царквой навісла пагроза зьнішчэньня. Сучаснікі падзеяў 1839 году адзначалі закаранеласьць уніятаў у сваёй веры. Многія з абурэньнем сустрэлі так званае «ўзьяднаньне»: бачылі ў ім вялікую несправядлівасьць — лічылі, што іх вера прададзена, а пастыры здрадзілі. Іхні пратэст падаўляўся адміністрацыйнымі мерамі, а, бывала, і карнымі аперацыямі.

Невыпадкова, відаць, прадвесьнікамі і пачынальнікамі беларускага адраджэньня ў XIX ст. сталі выдатныя вучоныя Віленскага ўніверсітэту М.Баброўскі, І.Даніловіч, П.Сасноўскі, І.Анацэвіч,

[18] Грыцкевіч А.П. Рэлігійнае пытанне і знешняя палітыка царызму перад падзеламі Рэчы Паспалітай // Весці Акадэміі навук БССР. Серыя грамадскіх навук. 1973. №6. С. 63.

[19] Ільяшэвіч М. Расейская палітыка на землях былога Беларуска-Літоўскага гаспадарства за панаваньня Кацярыны II і Паўлы I (1772-1801). Вільня, 1993. С. 11.

[20] Хрестоматия по истории Западной России. Вильна, 1892. С. 757.

Я.Ярашэвіч, А.Марціноўскі — пераважна сыны ўніяцкіх сьвятароў з вясковых парафіяў. Яны ж заклалі падмурак нацыянальнай канцэпцыі гісторыі Беларусі. Іхняя навуковая спадчына спрыяла паўстаньню і разьвіцьцю беларускай самасьвядомасьці і была тым падмуркам, на якім грунтаваўся пазьнейшы сьвядомы беларускі нацыянальны рух.

***

Каб адказаць на пытаньне, якое хвалюе сёньня многіх: ці стала Ўніяцкая Царква беларускай нацыянальнай,— зьвернемся да аўтарытэтаў — адраджэнца В.Ластоўскага і вучонага С.Падокшына, якія, трэба адзначыць, вынесьлі ёй строгі прысуд. Першы з іх ацэньвае Берасьцейскую Унію як няўдалую спробу Беларусі рэлігійна самаакрэсьліцца ў экспансіўным міжнародным праваслаўна-каталіцкім атачэньні. Правалу гэтай спробы спрыялі як унутраныя фактары (супярэчнасьці паміж белым і чорным духавенствам у самой Царкве, лацінізатарская дзейнасьць базыльянскага ордэну, цяжкае матэрыяльнае і маральнае становішча парафіяльнага кліру), так і зьнешнія (вераломства польска-каталіцкіх колаў, якія глядзелі на Унію толькі як на спосаб асіміляцыі беларусаў; своекарысьлівая царкоўная палітыка Расеі). Унія, паводле В.Ластоўскага, магла стаць нацыянальным абрадам толькі як дзяржаўная рэлігія са сваёй уласнай ярархіяй, народнай мовай у літургіі і пры ўмове прыналежнасьці да яе ўсіх класаў грамадзтва[21]. Ён, на жаль, ня бачыў, што з усіх хрысьціянскіх царкоўных арганізацыяў, якія існавалі тады ў Беларусі, менавіта Ўніяцкая Царква найбольш наблізілася да гэтых крытэрыяў: мела ярархію мясцовага паходжаньня, беларусізаваную царкоўнаславянскую мову літургіі і зьяўлялася самай масавай у XVIII ст.

[21] Ластоўскі В. Унія // Выбраныя творы. Мн., 1997. С. 400-414.

Як сьцьвярджае С.Падокшын, у сілу розных гістарычных абставінаў за некалькі апошніх стагоддзяў ніводнай з існуючых у Беларусі хрысьціянскіх канфесіяў не ўдалося стаць агульнанацыянальнай. Філосаф прызнае, што існавала тэндэнцыя ператварэньня Уніяцкай Царквы ў беларускую нацыянальную, але яе рэалізацыі перашкодзілі паланізацыя і пераход у рыма-каталіцтва «вярхоў», забарона ўніяцтва на Полацкім саборы і палітыка царызму[22].

Лёс Уніяцкай Царквы ў Беларусі няпросты: яна зьведала грубае ўмяшаньне ў берасьцейскі працэс палітычных колаў Рэчы Паспалітай і Расейскай дзяржавы, грэбаваньне польскім Касьцёлам. Няўдзячная місія прымірэнца — Уніяцкая Царква стала ахвярай тых, каго хацела прымірыць. Таксама яна мела свае няўдачы і выдаткі: няздольнасьць стварыць канкурэнтназдольную адукацыйную сістэму і даць належную адукацыю парафіяльнаму сьвятарству — таму слою інтэлігенцыі, які непасрэдна працаваў з народам; няздольнасьць стаць агульнанацыянальнай верай — спыніць дэнацыяналізацыю шляхты і ахапіць увесь народ; паланізацыя вышэйшай ярархіі і лацінізацыя базыльянскага ордэну; супярэчнасьці паміж белым духавенствам і манаствам і інш.

Ды ўсё ж, калі б не гвалтоўная забарона ў 1839 г., уніяцтва, пры ўсіх перыпетыях ягонага лёсу, пры ўсіх няўдачах і выдатках, магло б у XIX ст. стаць магутным фактарам яднаньня нацыі, як гэта паказаў вопыт Заходняй Украіны.

[22] Падокшын С.А. Унія. Дзяржаўнасць. Культура (Філасофска-гістарычны аналіз). Мн., 1998. С. 105-107.

*Навуковае выданьне*

**Сьвятлана МАРОЗАВА**

# Дзейнасьць Уніяцкай Царквы па кансалідацыі беларускага народу

Адказны за выпуск а. Ігар Кандрацьеў
Рэдактар Ігар Бараноўскі
Стыль-рэдактар Марыя Новік
Карэктура Сьвятланы Варонік
Вёрстка Ігара Бараноўскага

Здадзена ў набор 18.10.2000. Падпісана да друку 25.03.2001. Фармат 60х84/16. Папера афсетная. Гарнітура Academy. Ул.-выд. арк. 0,93. Наклад 300 асобнікаў.

Берасьцейская грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў апосталаў Пятра і Андрэя
Рэдакцыя газеты «Царква»
вул.Дворнікава, 63, 224014 г.Берасьце, Беларусь
тэл./факс (8-0162) 24-74-82, e-mail: bgkc_carkva@tut.by

